Цана асобнага нумару 15 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 70 (121). | Вільня, Серада 28 Верасьня 1927 г. | Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Нехай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## БЯЗ СОЙМУ.

Польская канстытуцыя ўстанаўляе, што заканадаўчымі органамі ў Польшчы зьяўляюцца Сойм і Сэнат, а выканаўчым органам законаў зьўляецца ўрад. Тымчасам мы зьяўляемся сьведкамі выпадкаў, якія гавораць нешта іншае.

У самай рэчы, калі прыпомнім гісторыю цяперашняга польскага ўраду, дык увідавочнім сабе, што Сойм дабравольна перадаў законадаўчую ўладу выканаўчым органам. Усім памятна, што на прапазыцыю ўраду Сойм прызнаў п. Прэзыдэнту права выдаваць дэкрэты, і таксама Сойм сам, на прапазыцыю ўраду, зьмяніў канстытуцыю, надаючы права Прэзыдэнту замыкаць і адкладаць сэсіі Сойму. Атрымаўшы ад Сойму паўнамоцтвы і зьмяніўшы карысна для сябе канстытуцыю ўрад пачуўся так дужым, што пастанавіў зусім не зварочваць увагі на Сойм і зусім прыпыніць яго працу. Гэта-ж у ліпені месяцы, як толькі Сойм хацеў узяцца за выдаваньне сваіх праектаў законаў, зараз Прэзыдэнт зачыніў сэсію. Пасьля, калі Сойм сабраў падпісы і падаў Прэзыдэнту заяву аб скліканьні сэсіі, гэтая сэсія была склікана, але ўрад не дазволіў Сойму працаваць, бо на другі дзень яго паседжаньня. Усё гэта ясна сьведчыць аб тым, што ўрад зусім не патрабуе Сойму і што ён хоча сам выдаваць законы і праводзіць іх у жыцьцё,

Рэч ясная, што такі стан рэчаў у рэспубліканскім ладзе ёсьць ненармальным. Які-ж можа быць выхад з такога стану? Рэч ясная, што дарогай кампрамісаў-уступак з адной і з другой стараны, тут немагчыма будзе загладзіць канфлікт. Калі ўрад выразна папяў скрайнюю пазыцыю ў адносінах да Сойму, дык і Сойм павінен-бы атказаць тымсамым. Але на такі адважны крок правая большасьць Сойму ніколі не адважыцца, бо яна ня мае павагі сярод працоўных гушчаў, ды баіцца пачынаць барацьбу з урадам, бо гэтая барацьба можа прынесьці з сабой яшчэ нешта горшае за цяперашні ўрад, бо ўрад сялян і работнікаў. На адважную і рашучую барацьбу з урадам могуць выступаць левыя партыі, але ў даным выпадку, у Польшчы польскія левыя партыі ціха падтрымліваюць буржуазны ўрад м. Пілсудскага, і затым нельга спадзявацца, што цяперашні Сойм выступіць у абарону сваіх правоў і сваей павагі, падымаючы рашучыя і крайнія крокі.

Найбарджэй цяперашняму Сойму прызначана быць пасыўным, а канцом гэтае пасыўнасьці будзе дэкрэт аб разьвязаньні Сойму. А што-ж далей? Далей адбудуцца выбары ў новы Сойм. Урад спадзяецца, што выбары прынясуць правал эндэцкіх партыяў і перамогу г. зв. польскіх левых партыяў. Гэтыя партыі, ужо цяпер падтрымліваюць урад м. Пілсудскага, а пасьля новых выбараў тым больш будуць пакорнымі выканаўцамі волі ўраду. Калі-б прыпадкам здарылася нешта адваротнае, чаго пры цяперашніх абставінах немагчыма спадзявацца, напрыклад, або ў новым Сойме была эндэцкая большасьць, або левая большасьць пайшла проці ўраду м. Пілсудскага, дык на ўсё гэта ўрад мае лякарства, бо фактычная ўлада ў Польшчы ўжо знаходзіцца ў руках ураду. Немагчыма дапусьціць, каб урад таксама паступіў, як Сойм, перадаў уладу іншым, можа быць толькі адно дапушчэньне, што гэтае ўлады цяперашні ўрад з добрай волі не перадасьць нікому.

Такім чынам, новыя выбары не прынясуць зьмены істнуючага стану рэчаў. Сойм астанецца бяз сілы, ён будзе прымушаны або прыймаць толькі такія законы, якія патрэбны ўраду, або ізноў выдаць Прэзыдэнту паўнамоцтвы на права выдаваньня дэкрэтаў з моцай законаў. Іначай кажучы, урад будзе кіраваць усім дзяржаўным жыцьцём бяз Сойму. Ці гэта магчыма? Больш, як годняя практыка выказала, што ўрад можа кіраваць дзяржаваю і выдаваць законы бяз Сойму, але з паняцьцем Сойму можа быць таксама лучана паняцьце народу. І вось, калі можна ўраду не апірацца на Сойм, дык зусім немагчыма доўга істнаваць ураду без народу. Калі ўрад будзе ня толькі бяз Сойму, але і без народу, дык тады яго час істнаваньня можа быць палічаны. Цяпер народ ўжо не зьяўляецца падданым, але грамадзянствам, ці інакш гаспадаром у сваім краі. І вось, калі ўрад у кіраваньні дзяржаўным жыцьцём астанецца без народу, дык тады народ можа захацець паклікаць свой урад, той ці іншай дарогай.

Цяпер, народ яшчэ не сказаў свайго слова ані за ўрад, ані за Сойм, бо ніводная з гэтых установаў, у цяперашнім складзе, не адказваюць інтарэсам большасьці жыхарства, г. зн. працоўных гушчаў сялян і работнікаў. Беларусы—сяляне і работнікі аднолькава апазыцыйна адносяцца, як да аднэй, так і да другой установы.

**А. Дэмакрат.**

## Дэклярацыя пасла Юрага Сабалеўскага.

Пасол Юры Сабалеўскі, які прасядзеў 9 месяцаў у вастрозе на Лукішках, а вызвалены з вастрогу, дзякуючы пастанове Сойму, прынятай на прапазыцыю Беларускага Пасольскага Клюбу, выступіў з Пасольскага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і ўступіў у Беларускі Пасольскі Клюб. У сувязі з гэтым пасол Ю. Сабалеўскі выдаў камунікат, у якім выдажыў матывы свайго выступленьня з Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Гэная дэклярацыя наступнага зьместу.

1. Далейшая акцыя Грамады наагул а асобна і мая, у ёй будзе прычынай укіданьня ў польскія вастрогі лепшых беларускіх сіл. Я, будучы сынам Беларускага Народу і з цэлай душы жадаючы палягчыць цяжкай яго долі, жадаю лепш сам цярпець у вастрозе, чымся прычыняцца да запоўняньня вастрогаў беларускімі сялянамі, і праз гэта да зьністажэньня сем'яў, што асталіся на волі.

2. Беларуская Грамада вяла сваю працу пераважна ў кірунку ўсьведамляньня беларускіх гушчаў з палітычнага пункту гледжаньня, затое вельмі мала зварочвала ўвагі на рэчы важнейшыя для беларускай вёскі на нацыянальнае ўсьведамляньне, на культурна асьветную працу і на паляпшаньне гаспадарчага палажэньня Беларускага Народу.

3. Дасьледы мае на ніве арганізацыі вясковых гаспадарак, чэрпаныя з крытэрыяў культуры Захаду, а набытыя 20-летняй маей працай сярод Немцаў, Літвіноў, Латышоў — вучаць мяне, што шмат недамаганьняў у агульным жыцьці Беларускага Народу можна адсунуць праз прытарнаваных вышэйшай культуры ў гаспадарчым жыцьці гэтага Народу. Для зьдзейсьненьня затым гэтае мэты і намерваюся прысвяціць далейшую сваю працу. Але дзеля таго, што гаспадарчае жыцьцё ёсьць рэзультатам усіх формаў палітычнага жыцьця народу, буду імкнуцца да ўспомненай мэты праз кансалідацыю гэных беларускіх сіл дэмакратычных, якія шчыра працуюць пад поўным вызваленьнем Беларускага Народу, як з пункту гледжаньня гаспадарчага, культуральнага, так і палітычнага.

**Юры Сабалеўскі.**
Пасол Сойму.

Варшава, 19-IX 1927 г.

## Шлецэр і Гусеў вызваны ў Маскву.

Варшава 23.9. Забойцы Язэпа Трайковіча працаўнікі савецкага пасольства ў Варшаве: Гусеў і Шлецэр вызваны ў Маскву. Дзеля таго, што яны ня былі пастаўлены перад польскім судом, як віноўнікі, ў выездзе ня было роблена ніякіх перашкод. Гусеў і Шлецэр мелі дыплёматычныя пашпарты і візы на ў'езд; дзеля гэтага міністэрства вонкавых справаў не магло перашкодзіць ім у выездзе.

Абодвы працаўнікі вызваны ў Маскву дзеля дапросу ў пракурора, які вядзе сьледства ў справе забіцьця Трайковіча на падставе матэр'ялаў, перасланых у Маскву савецкім пасольствам ў Варшаве, апіраючыся на падобных гэтаму выпадках у мінуўшчыне, можна спадзявацца, што судовая ўлада савецкая звольніць Шлецэра і Гусева ад ўсялякай адказнасьці, а пракурор уважаючы гэта забойства за самаабарону- справу спыніць.

---

*СЯЛЯНЕ! Прысылайце падпіску, падахвочвайце другіх прысылаць грошы і пашырайце „Сялянскую Ніву!"*

# З жыцьця Польшчы.

### Дэкрэт аб прэсе абавязвае далей

33 г. м. Маршалку Сойму даручана пісьмо гэткага зьместу: Да п. марш. Сойму Рэчыпаспалітай ў Варшаве. Адказваючы на пісьмо ад 20 верасьня 1927 г. № 5109, якім паведамлялася, што дня 19 верасьня 1927 г. Сойм згодна з арт. 44 Канстытуцыі ухваліў адкінуць распараджэньне Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай ад 10 траўня 1927 г. аб прэсавым праве, а гэтак сама распараджэньне Прэзыдента Рэчыпаспалітай ад 10 траўня 1927 г., якім былі зьменяны некаторыя пастановы уставаў карных аб распаўсюджываньні непраўдзівых вестак і аб зьневагах (Гл. Уст- Р.П. № 45 поз. 396–899) ў паразумленьні з міністрам Справядлівасьці гэтым паведамляю: Вышэй успомненая пастанова Сойму ня мае канстытуцыйнай падставы, як нязгодная з арт. 44 пункт апошні Канстытуцыі, дзеля таго, што ўстаў гэты не дае права Сойму касаваць распараджэньняў Прэзыдента Рэчыпаспалітай з моцай уставу ў упрошчанай форме, як звычайнаю пастановай Сойму.

Сойм можа уневажніць распараджэньне, якое мае моц уставы толькі новым актам устаўадаўчым, захоўваючы пастановы арт. 35 Канстытуцыі гэтак сама, як у выпадках абрысоўваючых правы Сойму ў арт. з п. 3; у арт, 49 п. 2 як гэта ўжо ў Сойме ў кругу арт. 44 Канстытуцыю тасавалася выдаючы уставу ад 15-га сьнежня 1926 году (Дз. Уст. Р. П. № 128 п. 755). Гэтак сама адзначаю, што касаваньне ўставу пастановай ёсьць не дапусьціма яшчэ і дзеля таго, што на падставе абавязываючага права пастановы Сойму ня могуць быць апавешчанымі ў Дзеўніку Уставаў Рэчыпаспалітай.

Ў гэткім стане праўным, распараджэньні пералічаныя на пачатку ня згубілі абавязваючай моцы.

Старшыня Рады міністраў
(—) Язэп Пілсудскі.

# НАВІНЫ.

**— Новыя Гурткі Інстытуту.** Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры залажыў новыя гурткі ў Смаргонях Ашмянскага павету і ў Гарадзеі Нясьвіскага павету. Гурткі ўжо прыступілі да працы і закладаюць бібліатэчкі-чытальні і рыхтуюцца да пастаноўкі спэктакляў.

**— Беларускі Коопэратыўны Земляробска-Прамысловы Банк.** У аўторак 27-га верасьня адбылосе паседжаньне ў Інстытуце на якім быў прыняты статут Беларускага Коопэратыўнага Земляробска-Прамысловага банку, а таксама выбраны выкаваўчыя і наглядвыя органы банку.

**— „Саха“** Выйшаў № 6—7 месячніка „Саха“. Зьмест нумару: Выраб зямлі па сысіэме д-ра Вурмэстра; Новы севажарт: Як выраблянь дзярван; Вопыт ужываньня торфу на ўгнаеньне; Гутарка пра нашы сенажаці; Як пазнаць ці будзе з цяляці малочная карова; Выкарм лягчаных сьвінак і кабаноў; Скотныя магільнікі і іх значэньне ў барацьбе з заразьлівымі хваробамі жывёлы; Калі і як садзіць пладавыя дрэвы; Як зрабіць таннае віно з фруктаў і ягадаў: У справе арганізацыі беларускіх пчаляроў; Парады агранома і Парады для гаспадынь.

**— Невінавачаны ды сам прызнаецца.** У сувязі з юбілеем выпуску 50-га нумару „Нашай Праўды“, А. Луцкевіч прызнаецца ў тымжа нумары, што ён „камуністы“. Даказам можа быць наступнае:

У сваей газэце Луцкевіч піша: „...яны ў апошнім нумары „Сялянскае Нівы“ зьмяшчаюць ў перадавіцы чарговы *і лжывы данос* на гр. Луцкевіча, як па камуніста, а ў сярэдзіне нумары пішуць быццам зьезд сельсаюзнікаў з д-рам Станкевічам на чале — гэта „зьезд Луцкевіча“. Каротка кажучы: вінаваціць і д-ра Станкевіча, і большасьць сябраў Сельсаюзу, імі-ж, арганізаванага, — таксама ў „камунізме“. Глянем цяпер, што было зьмешчана ў перадавіцы „Сялянскае Нівы“:

„А. Луцкевіч не прытрымліваецца ніякіх прынцыпаў, ніякай ідэалёгіі, ён ужо быў: і сацыялістам, і нацыяналістам, і палянафілам, і германафілам, і франкафілам, і літвінафілам, і безвызнанёўцам, і мэтадыстым, і „беспартыйным“ і „ідэйным“ грамадзістым, і маскаляфілам, і нарэшце, „санацыйным, спадаровым сельсаюзьнікам“.

Ці-ж у гэтых словах ёсьць абвінавачаньне Луцкевіча, „як камуністага“? Наадварот, гэтыя словы кажуць, што Луцкевіч далёкі і ад камунізму ідэйнага, бо ён не прытрымліваецца ніякіх прынцыпаў і ніякай ідэалёгіі.

А калі „Наша Праўда“ надрукавала, што „Сял. Ніва“ быццам зрабіла данос на гр. Луцкевіча, як на камуністага, дык відаць, гэткае прызнаньне ў камунізме патрэбна самому Луцкевічу дзеля пэўных мэтаў. Калі гэты назоў „камуністага“ патрэбны Луцкевічу, дык навошта-ж ён Спадара Станкеўчыка і ягоных сельпартыйкаў таксама кляйміць гэтым імем, бо „Сялянская Ніва“ гэтых абодвых кумпанаў лічыць толькі безпрынцыповымі, безідэйнымі людзьмі, якія сваімі перакананьнямі выслугоўваюцца перад чужынцамі.

Як меняецца чужынец, дык меняюцца, а ў іх і перакананьні. Хоць Луцкевіч і сам прызнаецца ў „камунізьме“, аднак гэта не згаджаецца з ягонымі „перакананьнямі“, гэтае „прызнаньне“, відаць, патрэбна Луцкевічу, дзеля пэўных мэтаў, якія ня цяжка адгадаць.

*Сяляне! Запісвайцеся у Беларускі Сялянскі Саюз!*

# Балючае пытаньне.

Надыйшла восень, а з ею цяжкі сум апанаваў нашы вёскі. Балючае пытаньне: — што будзе з нашымі дзеткамі? — ізноў стаіць перед вачыма бацькоў - Беларусаў. Ня гледзячы на масавае дамаганьне роднай школы, на тысячы складзеных дэклярацыяў, на хлопаты бацькаў — як і раней, школьнае пытаньне астаецца ня развязаным, бо ня можна лічыць развязаньнем пыпытаньня адмоўнымі адказамі інспэктараў і куратараў на дамаганьні беларускіх сялян. А час не стаіць на месцы, і праз семь гадоў барацьбы і змаганьня за школу — малыя дзеці сталі дарослай моладзьдзю. Сем гадоў навукі ў польскай школе не абагацілі нічым гэтай моладзі, а хіба наадварот. — Як лепшы доказ гэтага ёсьць п'янства, гульня і бойкі па вёсках, замест культурнай працы, сталі натуральным зьявішчам. Гэта ў той час, калі па ўсім сьвеце працоўныя паступова і няўхільна заваёўваюць сабе належачае месца і правы. Што-ж будзе далей з нашаю беларускаю вёскай, калі дамаганьне яе, як і дагэтуль будзе разьбівацца, як гарох аб сьцяну? Што чакаець нашых наймалодшых дзетак, пазбаўленых найвялікшае патрэбы душы — навукі? Вельмі малая надзея, каб урад, урэшце сам абдумаўся і пайшоў ва сустрэчу нашым дамаганьням. А чакаць, „што далей будзе“, злажыўшы бязрадна рукі, мы ня павінны, ня можам, ня маем на гэта маральнага права. Адзіным выхадам з труднага палажэньня ёсьць сама-адукацыя на вёсцы. Усе тыя, хто лічыць сябе здольным зрабіць якую-колечы карысьць падрастаючаму пакаленьню — павінны лічыць гэта сваім найвялікшым абавязкам. Праступкам было-б астацца з боку і глядзець супакойна, як марнуюцца маладыя сілы. Усе арганізацыі, як і паасобныя сябры Б. І. Г. і К., павінны шчыра ўзяцца за гэную справу, адчыняючы бібліатекі — чытальні, курсы для дарослых — бацькоў, якія ў свой чарод павінны ўзгадоўваць належна сваіх дзетак.

Дык да працы! *Полымя.*



ЯКУБ КОЛАС. 4)

## Сымон Музыка.

**Поэма.**
(Працяг).

Гляне ён вакол на поле:
Унь там груша, там лясок,
А там жоўценькі пясок,
А дзядка ня ўгледзеш болей,
Ен памёр. І што з ім стала?
Дзе-ж падзеўся яго дух?
Ці душа ў зямлі прапала,
Як агонь: гарэў — і стух?
Ці яна па сьвеце ходзіць,
Як туман які, адна,
І спакою не знаходзіць
І нікому ня відна?
Сьмерць, жыцьцё... Дзіўно ўсё гэта!
І на што жыць? каб сканаць?
Смерць прышла і песьня сьпета,
І прыложана пячаць.
І няўжо ня будзе сьледу,
Жыў на сьвеце ты ці не?..
Смуткаваў хлапчук па дзеду,
І з ім бачыўся... у сьне.
А багацьце, што дзед справіў
За век доўгі — скрыпку, смык, —
Ён Сымону ўсё аставіў.
— Ты — музыка-чараўнік!
Грай-жа, дзеткі: скрыпка важна;
Смутак ты ёй свой вальлеш,
І душа заплача кажна,
Як ты смыкам павядзеш,
Бо хто ў горкай паняверцы
Крыж нясе свой, жывучы,
У таго ў людзкое сэрца
Есьць праўдзівыя ключы.
Грай-жа, хлопча, і старога
Ты хоць раз успамяні,
Бо мне жыць, браток, нямнога:
Мае зьлічаны ўжо дні.
З скрыпкай збудзеш сваё гора.
З ёю ты ўжо не адзін;
Скрыпка — хлеб твой і апора,
Дык шануй яе, мой сын:
Скрыпка верна ўсім служыла,
Каб і ты ёй верны быў. —
Гаварыў пастух Курыла,
Як духоўніцу рабіў,
І цікава была скрыпка,
Як-бы ў ёй быў хтось жывы:
Многа-сьпеўна, звонна-гібка,
Бы выказвала славы,
Як па струнах смык бывала
Ручка здольная вяла;
Добра гэта скрыпка грала
І зьвінела і гула.
Рад быў хлопчык: дар вялікі,
Неспадзеўны то быў дар,
А Сымону лёс музыкі
Усьмяхаўся ў сонцы мар.
Ён са скрыпкай неразлучны,
Ня спускае яе з рук,
А ў час вольны і спадручны
Граў і цешыўся хлапчук.
А як часам горка стане
Ці засмуціцца чаго,
Скрыпку ўспомніць — сонца гляне,
Асьвятляючы ўсяго.
І што ён ня чуў-бы толькі,
І пальлецца з-пад смыка
Гоман песьні, віхар полькі,
Вір бурлівы „казака“.
— Вось глядзі — музыка новы
І які яшчэ скрыпач!
Спрытны, здатны, адмысловы;
З вузел сам, а ўжо пабач!...—
На Сымонку і дзяўчаты
Паглядалі цікавей,
Ім пацешыць сэрца ў сьвята
Запрашалі ласкавей.
І Сымонка пад бародку
Дар старога дзеда браў
Ды прысеўшы на калодку,
„Каваля“, кадрыля граў.
Спрытна пальчыкі хадзілі,
Смык то плаваў, то лятаў,
Дружна струны гаманілі,
Бы іх віхар калыхаў,
То разгульна і шалёна,
То спакойна, ледзь чуваць...
Нават дома на Сымона
Сталі йначай пазіраць.
„Ну, што-ж? хлопец не загіне“,
Маці думала аб ім:
„Можна будзе жыць хлапчыне
Скрыпкай, талентам сваім;
Падзаробіць і на хату,
Дапамогу сваю дасьць,
Хоць ня будзе тае страты,
Хоць малую ўнясе часьць“.
Бацька, хоць не прызнаваўся,
Ды таксама трохі мяк,
Калі часам даставаўся
З-за сынка ўвагі знак.
Ды Сымонка неахвотна
Граў „кадрылі“, „кавалі“, —
Біў ён больш на лад маркотны,
Дзе пакутаю зямлі
Аддаваўся сьпеў гаротны,
Сьлёзы жаласьці цяклі,
І дзе чуўся жаль уціскі,
Крыўда, гора бедака,
Бо сьвет смутку болей блізкі
Быў для сэрца хлапчука.

V

Час падходзіў за Пакровы.
Вецер ліст з лясоў атрос,
І на поле свае ковы
Кінуў зьлёгенька мароз.
Агалеля поле. Зьнята
Збажына з яго даўно.
Глуха, пуста і зацята,
І нікога ня відно.
І ціхутка, бы ў магіле,
Зьвіс нязрушана туман
І свае валокны-крыльле
Абапёр на той курган.
Адзінотай і пустэчай
Ўсюды веяла з палёў,
Нейкай млявасьцю старэчай
Аддавала ад лугоў.
Жыцьцё ўнікла. Бы ў жалобе,
Неба цьмілася, зямля;
Толькі ў руневай аздобе
Вочы песьціла ральля.
У такі час наш музыка
Пасьвіў стадка авечок.
Ціха, глуха, ані зыку.
Сеў пад хвойкай пастушок,
А авечкі рунь шчыпалі
Каля лесу тут адны
Ды трывожна пазіралі
І пужаліся яны.
Але іх такая ўдача:
З глупства пузяцца, бягуць,
Камень, хвойку, куст убачаць,
Капыткамі землю б'юць.
І Сымонка з іх сьмяяўся:
— Вось дурныя, ха-ха-ха!
Куст ім страхам паказаўся! —
Пад гаворку пастуха
Заспакойвалася стадка,
І час зноў праходзіў гладка.
Але сёньня надта пудкі
Штось авечачкі былі.
— Ну, што з вамі, мае шуткі?
Што вы ў голавы ўзялі? —
Гаварыў Сымонка з імі,
Дый самога страх шугаў,
І трывожна ён вачыма
Поле, хвойнік азіраў.

# Весткі з Краю.

### Сучасныя „гэніі“.

(Пружаншчына).

Калі ўладзе ідзець аб барацьбу з якою-колечы палітычнай арганізацыяй, з групай моладзі, якая зрабіла дабравольны збор ахвяр палітычным вязьням, або з вясковым гаспадаром, у якога сабака адчэпіцца ад ланцуга (у той час, як асадніцкіе ня дадуць нікому прайсьці па дарозе), або таблічка на возе, ці на хаце блага напісана; ўрэшце, калі без дазволу ўлады, пачаць ставіць на ўласным пляцу якую небудзь паведку — дык урад у гэтай барацьбе чысты дэномэн, а выканаўчыя органы яго, і паадзінокія сябры — сапраўдныя гэніі.

Тут сам антыхрыст ня адкруціўся-б ад неўмалімага паліцыянта, сьпісваючага пратакол, і хіба адна гарэлка была-б у даным выпадку памоцнай.

Але вось, калі кожны кірмаш, ці то базарны дзень, шулер абдувае і выцягвае астатні грош у бедных сялян, дык да гэтага ўладзе няма ніякага інтарэсу.

Мне часта прыходзілася бачыць, як якая баба абдураная шулярам няўцешна плакала адыйшоўшы, скаржучыся, што дома солі няма, паліцыянт атрымаў, а шулер садраў з яе апошні грош на вачах паліцыі.

Сапраўдным прытонам гэткіх сцэнаў з'яўляецца м. Бяроза-Картуская. Оса.

### „Навука“ ў нас.

Каб мець якое-колечы прадстаўленьне аб польскай вучыцельцы п. Здановіч якая „вуча“ дзяцей у вёсцы Сашыцы, селецкае вол. прывяду адзін факт з яе атруты, а ня навукі:

— „Пчала вельмі непажадана ў садох і гародах, яна нішчыць цьвяты і дзеля гэтага іх (пчол) трэба знішчаць“.

Што гэта? Брэд вар'ята, ці злоснае ўмысьля, калечаньне дзяцей? Рашыць трудна.

І тое і другое мусіць тут разам.

Адно павінны сьцьвярдзіць — што, калі-б нават, прыпушчаем існавала ў вёсцы і польская школа, то ці-ж „паны“ хочуць з нашых дзетак вар'ятаў парабіць прысылаючы гэткіх вучыцеляк?! Полымя.

## Да Беларускае Моладзі.

Нашая беларуская моладзь таксама, як і іншых народнасьцяў робе поступ на перад, але не ўва ўсім, а калі і робе ў чым, то ня так, як належыцца і ня ў тым кірунку, які запраўды даў-бы карысьць для яе асабіста і на агул для ўсяго Беларуркага Народу. Наша моладзь вельмі часта, а бадай заўсёды ідзе чужой дарогай да чаго—небудзь, кідаючы ў занядбаньні, а часта ў забыцьці свае родныя правідловыя пуціны. Калі ўжо сягоньня, калі можна так сказаць, наша беларускае нацыянальнае полымя ахапіла ўвесь край беларускі, агулам бяручы, то ўсёж-такі яшчэ не ў ваўсе куточкі і не ў ваўсе галіны нашага жыцьця яно закралася, а калі і закралася, то яшчэ глее небачачым агнём. Дык вось, якраз і трэба тую тлеючую іскрачку узьдзьмухнуць, каб і там выбухнула тое нашае, вялікае беларускае нацыянальна - адраджэнскае полымя. Абавязак распалеваньня гэтага вялікага полымя, якое ахапіло-б усе праявы нашага жыцьця, кладу на нашую моладзь, бо яна сільная і зможа гэту работу выканаць.

І веру моцна веру, што напэўна дачакае пладоў свае працы. Наша моладзь павінна ведаць, што ад яе ўласнай працы на роднай беларускай ніве, залежыць шчасьлівая будучына нашага вечна-пакутнага народу. Хто-ж болей мае вялікіх парываў і лятуценьняў да творчае працы. Хто-ж болей мае адвагі вытрываласьці і сілы, калі ня моладзь!

Перад кім-жа раскінуўся доўгі жыцьцёвы шлях, калі не перад моладзьдзю!

Хто-ж мусіць прайсьці той шлях, калі ня моладзь. Дык трэба ведаць, што той наш жыцьцёвы шлях вельмі цярністы і камяністы! Той шлях, нашы ворагі ўжо з прад вякоў нам прыгатаўлялі, жадаючы ўбачыць на ім, тым-жа шляху, нашу Крывіцкую кроў. Заўсёды на ім застаўлепы барыкады. А тым больш сяньня мы бачым шмат перашкодаў на тым шляху да лепшае долі, бо вораг бачыць, што мы жывём, што мы прабудзіліся да лепшага, новага жыцьця!

Дык не зважайма на перашкоды і сьмела, як адзін выступім араць сваю беларускую ніву, каб навет мы самі дачакаліся пладоў сваей працы.

Дык клічу, цябе маладая Крывіцкая сям'я, славамі песьняра.

„Дык на перад покі сэрца,
Б'ецца, рвецца на прастор.
Годзі млець у паняверцы
Гэй да сонца, гэй да зор!“

*М. Пецюкевіч.*

### Рэлігійнае прасьледаваньне.

(М-ка Ялоўка, Ваўкавыскага пав.).

У 1922 годзе, гэта знача ў часе сьвежае толеранцыйнае канстытуцыі ў м. Ялоўцы адабралі ад праваслаўнага 6-ці тысячнага прыходу царкву, якая быццам калісь была закладзена пад касьцёл, а гэты прыход заткнулі ў цесную драўняную царкву, якая над натоўпам людзей у сьвята, трашчыць разам з касьцьмі прысутных. Тутэйшая каталіцкая парахфія налічвае толькі 3000 душ, якіх свабодна зьмяшчае пабудаваны праз іх прадваенны касьцёл. Адабраная царква перароблена на касьцёл і стаіць бяз ужытку, бо другога ксяндза не даюць на такую парахвію. Каб замацаваць і ляпей прыкрыць грабёж прад сумленьнем і Богам, час ад часу, разы два ці паўтара, бывае тут імша, пры якой згортываецца пыл з аўтара.

Пытаюся ў прадстаўнікоў справядлівасьці, ці на тое толькі адабралі царкву ад праваслаўных, каб іх крыўдзіць і мсьціцца за цара Мікалая? Голка.

### Водгукі Шаркаўскага мітынгу.

(Дзісеншчына—Браслаўшчына).

(Сабраныя мною словы і абразкі сялян—на фэсьці ў Шаркаўшчыне).

Дзень 28 жніўня с. г. быў прыемны цёплы, на небе ані воблачка, ня было, як і думаць аб дажджы, а толькі ў паветры звінела і мятусілася ад праменьняў сонца.

І ў такі дзень, і такую пагоду, прываліў народ на фэст рэлігійны ў Шаркаўшчыну, хто як мог і, як каму прыпадала.

— Ах, як дзіўна і прыгожа выглядалі плошчы, ах, як мастацка былі ўдэкараваны хлопцы і дзяўчата.

Раптам праняслася з вуснаў у вусны вестка: „Беларускі пасольскі мітынг будзе сёньня, мітынг!!...“

— „Хутчэй, хутчэй ідзём, каб не спазьніцца!“

Узварушыўся народ, і хто дужэйшы, той лепшы, штурхаючы адзін другога, валяць на той бок ракі, нават забыліся і на пацеры, на рэстараны і інш. У такім натоўпе пайшоў і я на той бок. Бачу, воддаль царквы цісьнецца народ, як піскуны ў кошык. Я ад зьдзіўленьня затрымаўся і думаю: гэтыя людзі быццам XVIII веку, за сьвятой вадой ці за ахвярамі, ламаюць сабе бакі. Ня ведама сколька-б думаў, каб не абарвалі думку словы: „Хоць шапку страціў, і гузікі вылупілі, але дзякуй нашаму Беларусу, „Сял. Ніву“ дай мне“.

Я ўраз дагадаўся, што тут наш беларускі сялянскі сын, пасол. Рвануўся з усей сілы, каб праціснуцца ў натоўп і пабачыдь паважанага гасьця і сына вёскі. Але ў гэтую часіну падняўся на вазе наш беларускі сялянскі пасол і прывітаў нас з асобым энтузьязмам ад імя Беларускага Пасольскага Ккюбу. Паліліся гарачыя словы яго... У мяне прабеглі дрыжыкі па ўсяму целу ад яго сьмелых, праўдзівых і здаровых словаў... Бабы і старыя сяляне пачалі плакаць ад спаўчуцьця... Паціху правасіліся словы: „вось наш змагар за права працоўных, вось наш сын вёскі—пасол Ярэміч, Ярэміч...“ Што сялянам прыходзілася, бедакам, вынесьці, ах, якія страшныя „каранціны“, як: легалізацыя, арышты, турмы, страхі... і здавалася нам, што рух беларускі загінуў на векі, аж не!!... Во беларускі пасол дае справаздачу, і так сьмела праўду кажа, што паліцыя службовая толькі бялеець ды сінеець...

Дзякаваць нашым змагарам, бо яны змагаюцца за нас — як мучанікі за веру Хрыста, тыя змаглі паганства, а гэтыя змогупь ворагаў беларускага сялянства—змогуць, змогуць. У гэта трэ' верыць нам...

Усё сьцішэла, толькі чуліся цяжкія, цяжкія ўздыханьні з сялянскіх грудзей... Нарэшце пачуліся лёзунгі з вуснаў пасла: „Няхай жыве незалежная Беларусь!“ „Няхай жыве беларускі народ!“ З нашага натоўпу пасыпаўся град воплескаў-падзякаў.

Як шкода было, што кароткая прамова была нашага пасла, бо мы слухалі-б цэлымі днямі яе, але што-ж рабіць, калі на ўсё свой час трэ' мець... і з гэтымі думкамі пачалі разходзіцца хто куды, нясучы ў сэрцы падзяку паслу за мітынг. Янка Закінуты.

### Махінацыя старасты пры выбарах.

(Плюская вол. Брасл. пав.).

Два тыдні таму назад адбыліся выбары войта ў Плюскай вол. Рэч ясная, што як усюды, так і тут не абышлося бяз „махінацыі“. Справа ў тым, што стараста, паміма волі радных, не хацеў старога войта Алёхны, а намеціў нейкага был. афіцэра польскай арміі. Бачачы, што не дасьць рады радным, ён узяў сабе ў памач свайго ўрадоўца а Браслаўскага Соймiку Ёзаніса, каторы таксама-ж ёсьць радным Плюскай воласьці. Не глядзя на тоя, што Ёзаніс швагер Алёхны, аднак-жа заўзяты яго праціўнік. Калі пры першым галасаваньні пала большасьць галасоў на Алёхну, то ўрадовец старасты Ёзаніс сабраў радных і сказаў ім так: „Ня будзем выбіраць Алёхну, бо яго я чуў, стараста не зацьвердзіць, а выбярэм гэтага афіцэра, тагды хутчэй удасца нам „зьвярнуць“. Так і зрабілі. Пры другім галасаваньні ўсе радныя падалі галасы на чужынца, каторага ад веку ня бачылі і выбралі яго на войта. Новы войт, ведама як афіцэр, патрэбаваў ад рады многа большую пэнсію, чымся браў войт стары, а аб „звароце“ яго з войтаўства няма і мовы. Цяпер радныя дагадаліся ў чым рэч, але ўжо позна, што праз сваю нясьведамасьць выбралі чужынца, дый даражэйшага ад старога. З гэтага бачым. што і ня ў аднэй гміне пашлі за нішто кандыдатуры войтаў Беларусаў, дзякуючы падобным махінацыям старастаў.

Кароль Цыбук.

### Праца на вёсцы.

(Мядзьведзічы, Баранавіцкага пав.).

Пры мядзьведзіцкім гуртку Б. І. Г. і К. заснавалася драматычная сэкцыя. Сяброў у гэнай сэкцыі 15 асоб, імёны якіх наступныя: Франук Сьвірэпа, Алеэь Пашукевіч, Янка Сарока, Кастусь Вайтуль, Вінцусь Кірша, Уладак Сьвірэпа, Броніс Пракудовіч, Кастусь Гайдзіс, Вінцусь Жагунь, Кранюк Каладзей, Каруся Калясінская, Каруся Пашукевіч, Зося Пашукевіч, Зося Грачыха і Зося Андрусевіч.

Новазаснаваўшаяся драматычная сэкцыя ў нядзелю 18 верасьня ў Мядзьведзічах зладзіла спэктакль-вечарыну, адыграна была камэдыя ў адным акце „Лекары і лекі“ і да таго была дадана ад сябе выдуманае прастаўлене „Бязмоўныя“. Неспадзеўна было ніколі, каб новыя і маладыя сілы так добра адыгралі свае ролі. Вельмі добра адыгралі: у ролі бацькі—Кастусь Вайтуль і ў ролі знахаркі—Зося Пашукевіч, у ролі маткі—Каруся Калясінская, у ролі сына—Вінцусь Кірша і ў ролі доктара—Янка Сарока. Прыстаўленьне адбылося ў школьным калідоры; ня гледзячы на кепскую пагоду, саля была поўная народу і ўсе былі надта здаволены з прастаўленьня ў роднай мове. Цяпер яшчэ адно зазначу, даражэнькія. Не зражайцеся ніякімі перашкодамі, якія нам ставяць нашы ворагі, ці нясьведамыя нашы Беларусы, якія яшчэ цемнатой кормяцца, але трэба ісьці сьмела і адважна ўперад шляхам адраджэньня роднае Бацькаўшчыны.

Дык чэсьць вам і слава, маладыя барацьбіты, хай саграваe вашыя маладыя душы вера ў лепшую будучыню нашага жыцьця, па залітай крывёй і потам нашых дзядоў, роднай зямліцы. Янка Павіха.

## НАШАЯ ПОШТА.

**Гутору Ул.** — Газэту пасылаем Вам акуратна. Падайце на пошту рэклямацыю.

**Хмелю С.** — Друкі паслалі, газэту пасылаем.

**Юрысу П., Бегеру М.** — Пробны нумар паслалі.

**Гасілу Т., Марозу П., Цяліцы А.** — Газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Курэйкі М. — 4 зл.; Шэйбака Ів. — 2 зл.; Грынькі М., Гішы М. — па 1 зл.





Рэдактар і выдавец А. Герасімчук. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.